


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

9 жніўня 2002 года
№ 32 (381)
Выходзіць па пятніцах

Панас Тэлетыдзень

**Навіны рэгіёна**

## Новы дырэктар ЗМК

МАЛАДЗЕЧНА. 5 жніўня Міхаіл Ангерчык прызначаны дырэктарам Маладзечанскага завода металаканструкцый.
Да гэтага М. Ангерчык выконваў абавязкі дырэктара завода. Прызначэнне адбылося загадам міністра архітэктуры і будаўніцтва Генадзя Курачкіна.

Аддзел інфармацыі "РГ".

## Выратаваў стрыечнага брата

ВІЛЕЙКА. 2 жніўня малады віляйчанін выратаваў ад смерці ў агні стрыечнага брата. Але загінула цётка.
Каля паловы адзінаццатай вечара віляйчанін пайшоў наведаць сваю цётку, якая жыла па вуліцы Фрунзе. Калі падышоў да дому, убачыў полымя. Праз акно прабраўся ў хату. Цётка і яе сын спалі. Пляменнік разбудзіў брата. Жанчыну на руках вынеслі на вуліцу. Але ў нядзелю ад цяжкіх апёкаў яна памерла.

Аддзел інфармацыі "РГ".

## Адкрыўся апошні летнік

ВАЛОЖЫН. 6 жніўня адкрыўся апошні летнік у раёне. Гэта летнік "Дружба" на базе Падбярэзскай сярэдняй школы. Там адпачываюць 20 актывістаў раённага аддзялення дабрачыннай арганізацыі "Хрысціянскі саюз дарослых і маладых". 16 жніўня да іх далучыцца 9 сяброў з Германіі.

Наталля ШТЭЙНЕР.

## Замест кніг – вянкі

МЯДЗЕЛ. У райцэнтры адкрыўся магазін «Рытуальныя паслугі». А раней у гэтым памяшканні была кнігарня. Кнігі перанеслі ў аддзел універмага. Такая падзея адлюстроўвае пэўную тэндэнцыю: чытаюць людзі менш, затое паміраюць больш. За паўгоддзе на Мядзельшчыне памерла 442 чалавекі. Гэта на 93 больш, чым летась за гэткі час.

Алесь ВЫСОЦКІ.

## Сустрэча з землячкай

АШМЯНЫ. У цэнтральнай раённай бібліятэцы прайшла творчая сустрэча з журналісткай і паэтэсай Ліліяй Бандарэвіч-Чарненка. Родам яна з Ашмяншчыны. Але ўжо 20 гадоў жыве ва Украіне. Піша творы на ўкраінскай, беларускай і рускай мовах. Падчас сустрэчы паэтэса падарыла некалькі кніг сваім аматарам.

Ірына РАБУШКА.

## Вечарына з Мальдзісам

АСТРАВЕЦ. Сёння ў цэнтральнай раённай бібліятэцы пройдзе вечар ушанавання прафесара Адама Мальдзіса. 7 жніўня яму споўнілася 70 гадоў. Запрошаных чакаецца каля 30 чалавек.

Аддзел інфармацыі "РГ".

## Дапамажыце школьнікам

СМАРГОНЬ. Кожны жыхар раёна можа здаць непатрэбнае адзенне і абутак, а таксама школьныя прылады ў салон міласэрнасці. Акцыя "Праявім клопат разам", якую наладзіла ўпраўленне па працы і сацыяльнай абароне райвыканкома, прадоўжыцца да 21 жніўня. Ахвяраванні размяркуюць напярэдадні навучальнага года паміж мнагадзетнымі, малазабяспечанымі і няпоўнымі сем'ямі.

Ірына РАБУШКА.

## Адмена электрацягнікоў



13 жніўня адмяняецца электрычка Маладзечна-Мінск адпраўленнем з Маладзечна ў 9-41 і 13-52 і прыбыццём у Маладзечна ў 10-45 і 14-24.

**Надвор'е на выхадныя**

Субота, 10 жніўня

**Мінск**
12°С (уначы)
21°С (удзень)



**Вільня**
10°С (уначы)
20°С (удзень)



Нядзеля, 11 жніўня

**Мінск**
11°С (уначы)
22°С (удзень)



**Вільня**
10°С (уначы)
21°С (удзень)



# Курс на Японію

**МАЛАДЗЕЧНА. Такі шлях абрала для сябе маладзечанка Юлія Паплёўка.**

Пасля заканчэння сярэдняй агульнаадукацыйнай школы мастацтваў (САШМ) яна паступіла на перакладчыцкі факультэт Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага універсітэта. Там яна будзе вывучаць англійскую і японскую мовы.

Усяго туды залічана дванаццаць чалавек. Конкурс быў сем чалавек на месца. Набор праводзіцца раз у пяць гадоў.

А было ўсё так...

Юля выйграла праграму на навучанне ў Злучаных Штатах Амерыкі. Паспяхова прайшла тры туры. Нарэшце дзяўчынкай зацікавіліся тэхасцы.

Апантаная перамогай, Юля ўяўляла, што Тэхас – гэта пустыня, кактусы і каўбоі. І потым вельмі здзівілася, калі ўбачыла шмат зеляніны і больш, чым у нас, зоркі на небе.

Здзівіліся і тэхасцы маладзечанцы. Па-першае, яны ўпершыню ўбачылі жывога беларуса. Па-другое, пра Беларусь ведалі толькі настаўнік геаграфіі і фермер. Маўляў, трактарчык беларускі ў яго ёсць. Пра дзяржаву родную чаго толькі не даведалася. І па-трэцяе, Юля стала адной з лепшых вучаніц тэхаскай школы. Дарэчы, дзесяцікласніца адразу "скокнула" ў 12 клас.

Там у яе адразу запыталі: "Якім відам спорту ты захапляешся?". Гэта самае галоўнае ў іх вучобе. І прыйшлося Юльцы бегаць на доўгія дыстанцыі.

Нельга было і паесці ў школе. Нават жвачку пажаваць. Сукенкі і майкі толькі з рукаўчыкам дазвалялі надзяваць, спадніцы – не вышэй калена.

Юля адчула крывадушнасць амерыканцаў. Яны лгуць, гледзячы ў вочы. Ім не хапае "нашай" шчырасці. Усе пэмашаны на грашах. І ніхто проста так не дапаможа. Гэта ім не перашкаджае хадзіць кожную раніцу ў царкву.

-- (З хваляваннем). Я стала патрыётам Беларусі. І не хацела б жыць там.

... За два тыдні да выпускных экзаменаў у роднай САШМ Юля вярнулася ў Маладзечна. Прыйшлося ўсё пачынаць з нуля. Бо вучоба ў Амерыцы, акрамя вуснай мовы, нічога не дала. Тут патрабаванні высокія, а там часцей тэсты са 100-бальнай сістэмай адзнак.

Мара пра "нархоз" адпала. Залаты медаль усё ж такі здабыла.

Так і вывела Юлю жыццёвая сцежка ў лінгвістычны універсітэт. А што ж, ад такога жыцця і па-японску загаворыш.

Ірына РАБУШКА.



Студэнтка Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага універсітэта Юлія Паплёўка. Фота Ірыны РАБУШКІ.

■ ВІРТУАЛЬНЫЯ НАВІНЫ

# Сайт Смаргоні ў руках школьніка

**СМАРГОНЬ. Школьныя канікулы набліжаюцца да канца. Не да адпачынку было адзінаццацікласніку Дзмітрыю Вянско.**

Ён стварыў сайт Смаргоні і займаецца ўсім адзін. Кажа, хацеў пяро распрабаваць. Дакладней, канешне, кнопкі.

Хлопец працаваў над сваёй задумкай тры месяцы. З'явілася вялікае жаданне даведацца пра Смаргонь:

— А як залезеш у інтэрнэт, бачыш, што інфармацыя аб горадзе зроблена не самімі смаргонцамі.

Цяпер на Дзіміным сайце працуюць чатыры рубрыкі.



Фота Ірыны РАБУШКІ.

Адзінаццацікласнік Дзмітрый Вянско стварыў сайт пра Смаргонь.

13-18-гадовыя падлеткі могуць убачыць сябе ў фотагалерэі. На іншай старонцы вы даведаецеся пра гісторыю горада. У "Хосцінгу" атрымаеце карысную інфармацыю для стварэння сайтаў і асабістых старонак. Паўдзельнічаць у абмеркаванні розных тэм прапануе "Форум". Інфармацыю на сайце ён абнаўляе раз на тыдзень. І тут жа Дзіма прыкмеціў: "Да людзей, бывае, складана падысці. Цяжка распрацоўваць стыль і дызайн. Але прызнанне горада ўжо адчуваю".

Юнак распрацоўвае новыя старонкі.

Пяцьдзесят чалавек на тыдзень "заходзяць" на Дзімін сайт. Кажа: "Мала. Але толькі з-за таго, што сайт нядоўга існуе".

Усяго з пачатку адкрыцця ў госці да школьніка «завітала» каля трох тысяч чалавек. У асноўным – моладзь. "Заязджаюць" да яго і з Магілёва, Брэста, Мінска.

Дзіма Вянско збіраецца пашырыць свой штат. Маўляў, мастака-афарміцеля і менеджэра па раскрутцы не хапае.

— А хто фінансуе тваю справу?

— (Са звычкамі сапраўднага камп'ютэрнага магната адказаў). Частка асабістых зберажэнняў і бацькі.

Ірына РАБУШКА.

■ ВЫСТАЎКІ

## Беларусь у здымках

**АШМЯНЫ. У Гальшанскім філіяле мастацкага музея праходзіць фотавыстаўка "На пачатку трэцяга" Уладзіміра Багданава з Мінска.**

На фотаздымках можна ўбачыць старадаўнія касцёлы, замкі, руіны святых месцаў. Спачатку на выстаўцы было 107 фотаработ. Потым 60 з іх адвезлі ў Кіеў.

Каб наладзіць гэтую выстаўку, Уладзімір Багданаў аб'ездзіў амаль усю Беларусь.

**Ірына РАБУШКА.**

■ ВІЗІТЫ

## Дыпламаты ў музеі

**ВАЛОЖЫН. На мінулым тыдні ў Івянецкім музеі Дзяржынскага сярод экскурсантаў пабывалі саветнік амбасады саюзнай Рэспублікі Югаславія Слабадан Ярчэвіч і саветнік французскага пасольства Аляксей Шахтанцінскі.**

Іх уразіла экспазіцыя твораў мясцовых умельцаў, і дыпламаты абяцалі прыток у музей экскурсантаў-землякоў, якія прыедуць у Беларусь.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

■ ШКОЛА

## На вучобу ў Польшчу

**ВАЛОЖЫН. 28 ліпеня настаўніца музыкі і польскай мовы Вішнеўскай сярэдняй школы Надзея Зароўская паехала на вучобу ў Польшчу.**

Курсы павышэння кваліфікацыі праводзіць польскі цэнтр настаўнікаў у Любліне. Н. Зароўская вывучае методыку выкладання польскай мовы з элементамі танца.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

■ З НАШАЙ ПОШТЫ

## Беражыце сваіх першых настаўнікаў

Дзеці ўжо забыліся пра апошні званок, бо ў разгары спякотнае лета.

А ў сэрцы нейкае хваляванне. У гэтым годзе мой сын закончыў чацверты клас. Што чакае яго наперадзе?

Блізкім і родным чалавекам за гэтыя чатыры гады стала для нас настаўніца з СШ №11 **Ніна Машко**. Яна была настаўніцай не толькі для нашых дзяцей, але і для нас, бацькоў. У любы час я магла з ёй параіцца, папрасіць яе дапамогі. І адразу знаходзіла выйсце з таго ці іншага становішча.

Уважлівасць – гэта лепшае слова для вызначэння характару нашай Ніны Антонаўны. Яна вельмі моцная і мужная, патрабавальная і пяшчотная, паважлівая і клапатлівая, самая прыгожая і самая мудрая. Я ведаю, што лёс сваіх дзетак ёй неабыякавы, і таму яна ўважлівая да кожнага вучня.

**З вялікай падзякай маці Людміла КАЗЛОЎСКАЯ, г.Маладзечна.**

■ ГАСЦЁЎНЯ

# Гром сярод яснага неба

**МАЛАДЗЕЧНА. У мінулую пятніцу мастацкі савет Мінскага абласнога тэатра лялек "Батлейка" чыніў суд над новым спектаклем "Тыграня Петрык". Гледачы могуць рыхтавацца да прэм'ернага сюрпрызу. Паставіў спектакль заслужаны артыст Беларусі Уладзімір Грамовіч. Дарэчы, 35 гадоў працуе ён у Мінскім дзяржаўным тэатры лялек.**

Гэтая пастаноўка адзіная за апошнія два гады ў "Батлейцы".

За тры дні да галоўнага прагляду карэспандэнт "РГ" сустрэўся з рэжысёрам новага спектакля Уладзімірам Грамовічам.

Гутарка праходзіла як быццам без мяне. Я толькі наводзіла на думкі. Ён, здаецца, разважаў сам з сабою. Часта падхопліваўся з лаўкі, хутка хадзіў па грымёрцы, углядаўся ўдалечыню праз акно.

### Пра яго

Пасляваенная дзяцінства прайшло ў адным з крымінагенных двароў Мінска. Таму заўсёды гулялі ў вайну. Але гэта не перашкаджала мары стаць мастаком тэатра.



Фота Ірыны РАБУШКІ.

**Заслужаны артыст Беларусі і рэжысёр новага спектакля «Батлейкі» Уладзімір Грамовіч.**

У 18 гадоў мара пра тэатр амаль спраўдзілася. Пачаў працаваць рабочым сцэны.

"Але ж тэатр – такая зараза, – гаворыць Уладзімір Грамовіч, – зацягнула і мяне.

Пуцёўку ў акцёрскае жыццё даў яму народны артыст Анатоль Ляляўскі. На рост прафесіяналізму аказалі ўплыў і знаёмствы з Максімам Танкам, Алесем Адамовічам, Васілём Быкавым і іншымі знакамітасцямі.

**— Як ставіцеся да Быкава?**

— Вельмі добра. Ён адлюстраваў у сваіх творах рэальнае ваеннае жыццё. Быкаў – твар і гонар нацыі. З боку ўлады — гэта крыўдна для ўсёй беларускай інтэлігенцыі.

**— Напэўна, нездарма ён мае столькі тытулаў. А за што Вам далі званне заслужанага артыста?**

— Ну, не ведаю. Вельмі шмат працаваў.

### Пра тэатр

Цяперашні тэатр не той. Гадоў 25 таму каля касы за білетамі ў 6 гадзін раніцы чэргі выстройваліся.

**— У чым адрозненне тагачаснага і цяперашняга тэатраў?**

— Цяпер тэатр стаў больш прафесійным. Гэтаму вельмі спрыяе Акадэмія мастацтваў. Рэжысёры не баяцца змешваць розныя жанры. Тэатр працуе на ўзроўні пазнання ідэі, а раней – на ўзроўні пазнання формы.

**— Вы іграеце надзвычай рознапланавыя ролі: ад мядзведзя Пуха да булгакаўскага Бяздомнага з рамана "Майстар і Маргарыта".**

— Так. Нават не падлічу, колькі іх. Але менавіта ад спектакля па "Майстру..."самае вялікае ўзрушэнне. Ён доўжыўся чатыры гадзіны. Іграў жыўём у прамым і пераносным сэнсе.

Уладзімір Грамовіч заўважыў, што быць акцёрам – гэта экзекуцыя. Яны часам становяцца алкаголікамі, наркаманамі. Рана паміраюць. Дапамагчы можа толькі зладжаная сям'я.

**— Як жа Вы здымаеце напружанне? Ці беражэ сям'я?**

(Задумаўся). Па-рознаму. Бывае, пасля вялікай эмацыянальнай нагрузкі вып'еш бутэльку гарэлкі, а цябе анічуць не бярэ. А бывае, ляжу ды ў столь плюю. Выйсце шукаю ў сям'і. Напрыклад, кніжкі "казырныя" па блату чытаю. У мяне жонка ў бібліятэцы працуе.

### Пра спектакль

Крок за крокам Уладзімір Грамовіч ішоў па акцёрскай сцежцы. І вырашыў паспрабаваць сябе ў якасці рэжысёра.

"Тыграня Петрык" – яго трэцяя рэжысёрская спроба. Падчас пастаноўкі прыходзілася нават начаваць у тэатры. Кажа: "Усё нічога. Толькі рыбы не хапае. І пацукі носяцца. А мне падаецца, што нехта зайшоў. Спякота замучыла. Хочацца беларускай навальніцы".

У спектаклі заняты чатыры артысты. Перавага аддаецца "жывым акцёрам".

Да таго ж спектакль будзе зручна "вазіць" у дзіцячыя сады, пакуль у тэатры ідзе рэканструкцыя.

**— Дык кім цяжэй быць, акцёрам ці рэжысёрам?**

— На адным узроўні. (Тлумачыць на пальцах). Рэжысёр як бы за ўсіх іграе ролі. Дае ўказанні. Гэта праца на самазнішчэнне.

... Пятніца. 2 жніўня. Пачатак семнаццатай гадзіны. За вокнамі чуецца грымота... Ідзе дождж... Спектакль здаецца...

**Ірына РАБУШКА.**

■ АДПАЧЫНАК

## Скаўцкі летнік

**ВАЛОЖЫН. На мінулым тыдні каля вёскі Падневічы прайшло джамбары скаўтаў хрысціянскага саюза маладых людзей.**

Джамбары перакладаецца як "збор старэйшын". На рацэ Іслач сабраліся самыя падрыхтаваныя скаўты з Украіны, Швейцарыі, Эстоніі, Літвы і Беларусі (Маладзечна, Віцебск, Ліда, Валожын, Мінск, Бабруйск). Праграма была вельмі насычаная: спартыўны дзень, скаўцкія гульні, дзень смеху, кірмаш, дзень нацыянальных культур, дзень экстрэмальнага турызму. Надвор'е вычваралася, як магло, таму ўдзельнікам джамбары давялося тушыць пажар, што ўзнік на другім беразе ракі, і ратаваць палаткі ад надзвычайнага ветру, што ўзняўся 31 ліпеня перад навальніцай. Развітальнае вогнішча, абмен адрасамі – і ўсе раз'ехаліся на год, каб сустрэцца на наступным джамбары.

**Святлана ЦІШКО.**

■ ЭКАЛОГІЯ

## Геаэкалагічная ацэнка Маладзечна

**МАЛАДЗЕЧНА. Адной з важнейшых задач сучаснай экалагічнай навукі з'яўляецца экалагічная ацэнка тэрыторыі.**

Я стварыў схему верагоднага стану геаэкалагічнай абстаноўкі горада, дзе выдзеліў тры групы тэрыторый.

Да групы тэрыторый з неспрыяльным геаэкалагічным станам аднесены, як правіла, прамысловыя прыродна-антрапагенныя комплексы і тэрыторыі паабапал чыгуначных і аўтамабільных магістраляў.

У групу раёнаў з адносна неспрыяльным геаэкалагічным станам адносяцца тэрыторыі большасці прамысловых прадпрыемстваў, сельскагаспадарчыя землі інтэнсіўнага выкарыстання, значная частка прыватнай забудовы ў межах паўночнай часткі горада.

Да раёнаў з адносна спрыяльным геаэкалагічным станам адносіцца большая частка гарадскіх кварталаў. Яны адрозніваюцца стабільным антрапагенным уціскам, які з цягам часу амаль не змяняецца і часткова кампенсуецца за кошт унутраных рэзерваў тэрыторыі. Пры ўзмацненні мер па ахове навакольнага асяроддзя і своечасовым выкананні ўсіх санітарна-тэхнічных мерапрыемстваў гэтыя гарадскія тэрыторыі могуць захоўваць свой стан даволі працяглы тэрмін.

Прыведзеная ацэнка з'яўляецца адноснай і прагнознай. Яна скіравана галоўным чынам на агульны аналіз фактаў з вылучэннем раёнаў, якім неабходна надаць павышаную ўвагу.

Непажадана вырошчваць гародніну паабапал чыгункі – шматлікія рэчывы, што трапляюць у глебу ў выніку спальвання паліва, трапляюць спачатку ў гародніну, а потым і ў арганізм чалавека. Пастаянныя ўздзеянні з боку такой прадукцыі выяўляюцца праз гады хваробамі. А вось зялёныя масівы – месца для прагулак вельмі прыдатнае. Тут нават у спякоту захоўваецца пэўная прахалода і адсутнічае запыленасць і загазаванасць паветра. Вадаёкі ж Маладзечна, з-за каналізацыі русла і інтэнсіўнага забруджвання, у спякоту могуць уяўляць значную небяспеку для адпачываючых.

**Вадзім ЗУБРЫЦКІ.**

■ ТАЛЕНТЫ

## Мара – пакарыць вобласць

**ВІЛЕЙКА. Уладальнік Гран-пры апошняга фестывалю "Адна зямля" Казімір Талстыка меркаваў стаць хаця б другім у сваёй узроставай групе, а атрымалася, што выйграў галоўны прыз фестывалю.**

Казімір успамінае, як гэта было:

— Нягледзячы на ўпэўненасць у сваіх сілах, былі і хваляванні. Чакаць выхаду на сцэну трэба было ледзь не цэлы дзень. Дадалі сумненняў у перамозе і ўпэўненыя паводзіны на рэпетыцыі сапернікаў.

У выбары рэпертуару і па вакалу дапамагаў Аляксандр Высоцкі. "Край верасовы" – яго песня. І яшчэ – уласны густ. Казіміру даспадобы душэўныя кампазіцыі. Ён прыкладна ведаў, што можа спадабацца публіцы. "Члены журы сказалі, што першую песню спяваюць для журы, а другую – на публіку, – кажа Казімір. – Падчас выступлення бачыў, што мяне заўважылі, журы зацікавілася".

Выступае Казімір з таго часу, калі хадзіў у дзіцячы сад.



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Казімір Талстыка.**

У час вучобы ў Вілейскім ПТВ-200 ён удзельнічаў у штогадовых аглядах самадзейнасці.

Казімір не толькі сам спявае, але і вучыць гэтаму ў эстрадным гуртку і групе мужчынскага вакалу. Штогод разам з вучнямі рухтуе выступленні. Сёлета ўпершыню паспрабавалі згуляць у КВЗ і занялі першае месца па вобласці сярод вучылішчаў.

Праца кіраўніка гурткоў нялёгкая. Сельская моладзь прыязджае вучыцца на трактарыстаў, і жадаючых займацца мастацкай самадзейнасцю мала.

**Казімір Талстыка нарадзіўся ў вёсцы Стахоўцы Мядзельскага раёна. Вучыўся ў Вілейскай СШ№ 2. У 1995 годзе закончыў Вілейскае ПТВ-200. Паступіў у Мінскі каледж мастацтваў. Пасля заканчэння працаваў пры Вілейскім Доме культуры. Цяпер працуе кіраўніком мастацкіх гурткоў у Вілейскім ПТВ-200. Уладальнік Гран-пры фестывалю "Адна зямля" ў 2002 годзе. Жанаты. Жонка Наталля, дачка Ангеліна, сын Валера.**

Яшчэ Казімір іграе на вяселлях з напарнікам Віктарам Восіпавым. У Віктара ёсць свой ансамбль, дыска-група "Тандэм". Адно вяселле прыйшлося адкласці з-за ўдзелу ў "Адной зямлі".

Прызавы тэлевізар ужо стаіць у спальні Казіміра, але ён не збіраецца на гэтым спыняцца. "Трэба абласное нешта браць", – кажа ён. На другі дзень пасля фестывалю патэлефанавалі з міністэрства культуры і запрасілі на абласны справаздачны канцэрт.

**Ірына ГЛУШАКОВА.**

■ ЛЕТА

## Адна змена ў «Дэсантніку»

**Летам ваенна-патрыятычны клуб "Юны дэсантнік" вывез сваіх выхаванцаў на "Вялікую паляну" ў Чарчонава.**

У залежнасці ад узросту дзяцей падзялілі на ўзводы. Іх атрымалася сем. Узводы па чарзе заступалі на суткі на дзяжурствы. Дзяжурныя неслі адказнасць за жыццё лагера днём і ноччу. А яшчэ два ўзводы, дзе былі хлопчыкі з 7 да 11 год, працавалі па аблегчанай праграме, іх не турбавалі ноччу.

Праграма была вельмі насычанай. Кожны дзень пачынаўся з прабежкі 4 км і фіззарадкі. А потым: страявая падрыхтоўка, прыёмы самаабароны, уменне арыентавацца, страляць днём і ноччу, вадзіць матацыкл, кіраваць байдаркай, раскласці і скласці парашут... І, безумоўна, не абыходзілася без начных трывог, начнога арыентавання, разведкі, дыскатэк і песень ля кастра.

На працягу збораў правялі спартыўныя спаборніцтвы па дартсу, летняму біятлону, легкаатлетычнаму кросу, стральбе з пнеўматычнай вінтоўкі, арыентаванню, мнагаборству.

Побач з намі быў размешчаны летнік раённай ДЮСШ. Дзеці разам працавалі, разам адпачывалі, разам змагаліся ў спаборніцтвах і, вядома ж, пасябравалі, бліжэй пазналі ў цяжкасцях адзін аднаго. Былі такі выпадак. У камандным арыентаванні ўзвод узяў старт. Адзін удзельнік пачаў адставаць. І сябры на руках неслі яго да фінішу.

Варта дадаць, што ў кожным відзе спаборніцтваў пераможцаў і прызёраў узнагароджвалі граматамі і каштоўнымі прызамі. Прызамі адзначылі таксама і камандзіраў узводаў.

**Ларыса КАЗЛОВА, намеснік дырэктара раённай ДЮСШ.**

■ КАНІКУЛЫ

# Шануйце кнігу – крыніцу ведаў

**МАЛАДЗЕЧНА. Маіх новых знаёмых, з якімі сустрэўся ў гарадской цэнтральнай бібліятэцы імя Максіма Багдановіча, пераконваць у гэтым няма сэнсу: яны напаўняюць тэзіс канкрэтным зместам.**

Трэці год бібліятэка і рэгіянальны цэнтр занятасці арганізуюць часовую пераплётную майстэрню. За тры месяцы канікулаў каля трыццаці школьнікаў праходзяць тут свае “працоўныя універсітэты”: пры дапамозе шыла, клею, пераплётнага матэрыялу рамантуюць кнігі. Толькі ў ліпені – дакладную лічбу прывяла дырэктар бібліятэкі **Ніна Артышэвіч** – “вернута да жыцця” 1635 экземпляраў. Прычым усе яны прашытыя, пераплеценыя, аздобленыя новымі вокладкамі.



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Школьніцы Надзея Буйкевіч і Аня Дзяльянава рамантуюць кнігі ў цэнтральнай гарадской бібліятэцы.**

## Што думае бібліятэка...

— Мы вельмі задаволеныя, — працягвае Ніна Аляксандраўна. – Рэспубліканскі бюджэт праз рэгіянальны цэнтр занятасці фінансуе не толькі зарплату юных памочнікаў, але і набыццё расходных матэрыялаў, інструментаў. Да прыкладу, на матэрыялы мы атрымалі 913 тысяч рублёў – для бібліятэкі сума адчувальная. Такім чынам, захоўваецца кніжны фонд, дзеці асвойваюць пэўныя навыкі, і бацькам спакайней за сына альбо дачку. У нас вельмі многа заяў ад жадаючых папрацаваць у пераплётнай майстэрні. На вялікі жаль, сродкі выдаткаваны абмежаваныя...

Удалося паназіраць за тым, як працуюць юныя пераплётчыкі, патрымаць у руках адрамантаваныя кнігі. Упэўніўся: яны яшчэ паслужаць чытачам.

## ... і пераплётчыцы

**Ірына Петрашкевіч**, вучаніца СШ №7:

— Працую другі месяц, вельмі падабаецца. Гэта намнога лепш, чым лётаць па вуліцы. Зробленыя грошы аддам маме, яны, напэўна, пойдуць на абноўкі да школы.

**Надзея Буйневіч**, вучаніца СШ №2:

— Мне вельмі цікава працаваць з кнігамі, да таго ж я вельмі люблю іх чытаць, асабліва творы Майн Рыда. Ну, а грошы, якія атрымаю, падзялю на дзве часткі: адну маме, другую сабе – на школьныя патрэбы.

**Ганна Янава**, вучаніца СШ №3:

— Мы займаемся вельмі добрай справай – аднаўляем кнігі, якія спатрэбяцца многім яшчэ не адзін раз. Кнігі куды лепш, чым тэлевізар альбо “відзік”. У маёй матулі хутка будзе дзень нараджэння, і я куплю ёй падарунак за свае, зробленыя ў бібліятэцы, грошы.

**Ірына Стасілевіч**, вучаніца сярэдняй агульнаадукацыйнай школы мастацтваў:

— Нікольні не стамляюся, працуючы з кнігамі. Мама вельмі добра ставіцца да майго занятку. Грошы выкарыстаю на сшыткі, дзённік, падручнікі да школы.

**Іван МЁДАЎ.**

■ ЖНІВО-2002

# Іра + Саша + Ліда = ?

**МАЛАДЗЕЧНА. Прыгадваю іранічны, які, аднак, стаў ужо класічным, выраз: прыгажосць нічым не сапсуеш. Нават тады, калі прыгажосць гэтая на фоне камбайна, у абрамленні металу, распаленага сонцам жалеза.**

Збожжаўборачны камбайн “Ліда-1300” сапраўды стаў часткай той кампазіцыі, у цэнтры якой апошні месяц была Ірына Радкевіч – дзевятнаццаціграговая жыхарка Цюрлёў, несумненна, самы прыгожы камбайнер сёлетняга жніва ў Маладзечанскім раёне (у чым нескладана пераканацца са здымка). Зрэшты, знешнюю прывабнасць дапаўняе яшчэ і ўнутранае святло, якім шчодра надзелена дзяўчына, і якое ў такім узросце няма патрэбы ні хаваць, ні наіграна рассыпаць у залежнасці ад абставін і людзей, з якімі гэтыя абставіны зводзяць.

Менавіта абставіны, яго вялікасць выпадак распарадзіліся так, што ўчарашняя навучэнка Вілейскага філіяла Беларускага тэхнікума бізнесу і права ўпершыню паднялася ў кабіну збожжаўборачнага агрэгата ў якасці камбайнера (раней бы сказалі “памочніка камбайнера”). Новая “Ліда-1300” павінна была дастацца бацьку, вопытнаму механізатару калгаса “Маладзечанскі” Касьяну Радкевічу, але той акурат незадоўга да жніва зламаў нагу – неасцярожна саскочыў з прыступкі камбайнавай лесвіцы. Кіраўніцтва калгаса крыўдную недарэчнасць вырашыла выправіць наступным чынам: замест бацькі будзе працаваць дачка, але памочнікам у больш вопытнага (шэсць уборак за плячыма!) і старэйшага па ўзросту (дваццаць год стукнула!) Аляксандра Салдаценкі.



Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

**Ірына Радкевіч з Цюрлёў можа прэтэндаваць на самага прыгожага камбайнера сёлетняга жніва.**

Да чаго ж устойлівыя стэрэатыпы! Аўтару гэтых радкоў, быў час, давялося працаваць памочнікам камбайнера на старэнькай “Ніве”. Ну і паварочаў ломам, каб ачысціць шнэк жняяркі ад травы, пустазелля і сырой збажыны – да гэтага часу, падаецца, смыляць рукі і “цягне” спіна. А як жа з падобнай работай жанчыне справіцца, танклявай дзяўчыне, у нашым выпадку? Аказваецца, для сучаснай тэхнікі, нават для айчынных камбайнаў з “Лідсельмаша”, падобнай праблемы не існуе. Да ўсяго ж у кабіне камп’ютэр, кандыцыянер, радыёпрыёмнік – чаму б не працаваць? Тым больш, калі побач такі надзейны “вядучы” ў асобе Аляксандра Салдаценкі.

Ён, да слова, старшынёўскі сын. Але патурання экіпаж у рабоце не меў: пачынаў, як і ўсе, з самага ранняга ранку, іншым разам дамоў вярталіся з поля позна ноччу. І ўчасткі жалі і абмалочвалі разам з іншымі. “Набілі” 1243 тоны зерня – адзін з лепшых паказчыкаў у раёне. І не толькі сярод маладзёжных экіпажаў...

На перадапошнім слове здрыганулася рука: ледзьве не напісаў – сярод сямейных экіпажаў. Урэшце, нічога немагчымага ў нашым жыцці няма, а ў выразе “Іра + Саша + Ліда = ?” замест пытальніка лагічна напрошваецца апошняе слова. Самі ведаеце, якое.

**Іван МЁДАЎ.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 1 жніўня | 8 жніўня |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 1830,00 руб. | **1836,00** руб. |
| Еўра | 1792,12 руб. | **1776,97** руб. |
| Злоты | 438,90 руб. | **436,60** руб. |
| Літ | 518,93 руб. | **514,62** руб. |
| Расійскі рубель | 58,17 руб. | **58,19** руб. |
| **«Вулічныя» курсы ў Маладзечне** | | |
| Долар | 1820-1860 руб. | **1845-1865** руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 31.07 | 7.08 |
|---|---|---|
| **Кілбаса с/вялен.**, 1 кг | 10900 | 10900 |
| **Сасіскі**, 1 кг | 4800 | 4820 |
| **Селядзец**, 1 кг | 2300 | 2500 |
| **Рыс**, 1 кг | 700 | 700 |
| **Грэчка**, 1 кг | 550 | 530 |
| **Цукар**, 1 кг | 775 | 820 |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 880 | 880 |
| **Алей**, 1 л | 2000 | 1950 |
| **Маянэз**, 200 г | 400 | 400 |
| **Кава “Пеле”**, 100 г | 1900 | 1900 |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 600 | 600 |
| **Соус там. «Мінскі»**, 0,5 л | 600 | 700 |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 700 | 550 |
| **Капуста**, 1 кг | 480 | 500 |
| **Лімоны**, 1 кг | 1800 | 1800 |
| **Апельсіны**, 1 кг | 1600 | 1550 |
| **Агуркі**, 1 кг | 600 | 300 |
| **Памідоры**, 1 кг | 700 | 800 |
| **Кавуны**, 1 кг | 450 | 500 |
| **Морква**, 1 кг | 750 | 800 |
| **Дыня**, 1 кг | 1500 | 1300 |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| **Малако**, 1 л | 600 | 600 |
| **Смятана**, 1 л | 2400 | 2200 |
| **Масла**, 1 кг | 4000 | 3800 |
| **Тварог**, 1 кг | 1500 | 1500 |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 1300 | 1200 |
| **Бульба**, 1 вядро | 3000 | 3000 |
| **Чарніцы**, 5-літровае вядро | 4500 | 5000 |
| **Чырвоныя парэчкі**, 5-літр. вядро | 2000 | 2000 |
| **Ажыны**, 5-л. вядро | 8000 | 6000 |
| **Алыча**, 5-л. вядро | 2000 | 2500 |
| **Брусніцы**, 5-л. вядро | 6000 | 7000 |
| **Слівы**, 5-л. вядро | | 3500 |

## Недапітая шклянка малака

**СМАРГОНЬ. На 200 грамаў у дзень ад каровы ўпалі надоі малака ў раёне.**

Прычына - спякота. Зялёны корм стаў несакавіты. Прыйшлося ў харчаванне ўвесці канцэнтраты і розныя падкормкі. Звычайная штодзённая норма надояў – 10 літраў ад каровы.

**Ірына РАБУШКА.**

■ У ГАРВЫКАНКОМЕ

## Маладзечна – не Горад бітых ліхтароў

**МАЛАДЗЕЧНА. На трэць у параўнанні з леташнім паказчыкам павялічылася колькасць злачынстваў, якія здарыліся ў горадзе за першае паўгоддзе.**

Але, як сказаў в.а. начальніка Маладзечанскага ГРАУС **Віктар Івашанка**, гаварыць аб тэндэнцыі да павелічэння злачыннасці пакуль рана. Летась зафіксавана самая нізкая колькасць злачынстваў за апошнія гады.

А калі параўноўваць з паказчыкамі пазамінулага і ранейшых гадоў, то відаць, што гарадская злачыннасць застаецца на адным узроўні. Гарвыканком прызнаў, што гарадскі аддзел унутраных спраў забяспечвае належны правапарадак у горадзе і выконвае задачы па барацьбе са злачыннасцю.

З пачатку года здарылася 8 забойстваў, што на 5 больш, чым за такі перыяд летась. Усе былі на бытавой глебе, таму прадухіліць іх работнікамі міліцыі было немагчыма. Забойствы і згвалтаванні раскрытыя на 100%. З 14 выпадкаў нанясення цяжкіх цялесных пашкоджанняў падазроных устанавілі ў трынаццаці.

Найбольшыя цяжкасці прычыняюць крадзяжы машын. Прычым уганяюць толькі тыя машыны, на якіх няма ахоўнай сігналізацыі. Слаба ахоўваюцца і некаторыя гаражныя кааператывы.

Да лістапада ва ўсіх гаражных кааператывах павінна з'явіцца ахоўная сігналізацыя, а ў чацвёртым квартале ў раёне калгаснага рынку – ахоўваемая стаянка для машын. Так запісана ў рашэнні гарвыканкома.

**Аддзел інфармацыі «РГ».**

■ ЭКАЛОГІЯ

## «Дах» рэгіёна

**Самым высокім месцам нашага рэгіёна з'яўляецца гара Маяк, 935 м над узроўнем мора. Знаходзіцца яна ў Валожынскім раёне на тэрыторыі Мінскага ўзвышша.**

Дабірацца сюды лепш за ўсё з прыпынку электрапоезда "Анусіна" праз вёскі Векшыцы, Вендзелева, Шапавалы. Калі пераходзіш за канал Вілейска-Мінскай воднай сістэмы, мясцовасць паступова павышаецца. Невялікія пастаянныя вадатокі, якія сілкуюцца крыніцамі або маленькімі балотамі ля самага Чарнаморска-Балтыйскага водападзелу, змяняюцца сезоннымі снегавымі або дажджавымі. Усё часцей сустракаюцца бясцсёкавыя паглыбленні. А за вёскай Шапавалы размясціўся шэраг велічных, калі глядзіш здалёк, узгоркаў, часткова пакрытых змешаным і сасновым лесам. Гэтыя ўзгоркі ўтвараюць своеасаблівае плато, якое рэзка зніжаецца ў бок даліны ракі Свіслач. Лес ля дачаў даволі засмечаны. Ёсць тут і закінуты пясчаны кар'ер. Мабыць, гэта самая "высокая" яма ў Беларусі. Дададзім, што адзначаны "Маякоўскі" масіў – яшчэ і самае снегавое месца ў рэгіёне, таму мясцовыя лясы затрымліваюць снег і маюць вялікае кліматычныя і водазберагаючае значэнне.

**Алег БЯГАНСКІ.**

■ НЕБЯСПЕЧНАЯ ПРАФЕСІЯ

# Чыгунка – не месца для прагулак

**МАЛАДЗЕЧНА. Чыгунка, напэўна, нечым прываблівае, інакш як можна патлумачыць такую цікавасць людзей да яе. Любяць тут гуляць, дзеці і падлеткі эксперыментуюць з камянямі, кладучы іх на рэйкі, камусьці падабаецца жартаваць ці страшыць адзін аднаго. Толькі ніхто не задумваецца, што цягніком кіруе чалавек.**

Машыніст-інструктар лакаматыўнага дэпо **Зігмунд Саевіч**:

— Тармазны шлях грузавога цягніка складае каля 1 кіламетра. Спыніць поезд не так лёгка. Машыністы прадугадваюць дарогу, але заўсёды могуць здарыцца непрадбачаныя сітуацыі. Напрыклад, чалавек перабягае перад самым поездам. Усе шкадуюць у гэтых выпадках саміх пацярпеўшых, і амаль ніхто не думае, што адчувае машыніст.

Некаторыя ўвогуле абвінавачваюць машыністаў, што тыя маглі затармазіць, але гэтага не зрабілі наўмысна. Уяўляеце, як далей жыць, калі нехта загінуў пад коламі твайго цягніка? Ноччу сняцца кашмары, уключаеш святло і шукаеш таго хлопчыка ці дзяўчынку, якія чамусьці гулялі на чыгунцы і трапілі пад поезд.

Яшчэ адзін машыніст-інструктар лакаматыўнага дэпо **Уладзімір Кандрашоў** зазначае, што цяпер вадзіць поезд складаней, чым было раней. Павялічылася колькасць цягнікоў, зусім іншыя хуткасці. Гэта дадало праблем.

— Людзі не могуць зразумець, – Уладзімір Канстанцінавіч не вытрымлівае, – што поезд за імі не ганяецца па палях. У яго ёсць адзін пуць, збочыць з якога, як аўтамабіль з дарогі, ён не можа. Дык навошта вы самі лезеце пад колы?

У выпадках здарэння цягнік спыняецца, аб гэтым неадкладна машыніст паведамляе дыспетчару. Калі ёсць пацярпеўшыя, выклікаюць "хуткую дапамогу". На месцы здарэння высвятляецца, ці ўсё магчымае было зроблена, каб пазбегнуць няшчаснага выпадку. Таксама існуе камісія, якая кантралюе стан здароўя машыністаў перад рэйсам і пасля яго. У машыністаў ёсць прафесійная хвароба – паступова пачынаюць здаваць нервы. Яны раней ідуць на пенсію. Забраныя чалавечыя жыцці застаюцца ў сэрцы назаўсёды. Чамусьці самазабойцы любяць вырашаць свае пытанні з дапамогай жалезнай машыны.

Калі вы не даражыце ўласным жыццём, пашкадуйце іншых.

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**



Фота REX/ProMedia.

**Нават пероны вакзалаў – небяспечная зона. Падобныя сітуацыі дабаўляюць сівых валасоў чыгуначнікам. На пенсію машыністы выходзяць у 55 гадоў.**

**... Дзеці дэманстравалі сваю смеласць тым, што спакойным крокам пераходзілі цераз чыгунку перад самым поездам. Аднойчы яны пераблыталі таварны цягнік з пасажырскім і не ўлічылі хуткасці апошняга. Хлопчык загінуў. Машыністу яшчэ доўга сніліся яго разгубленыя вочкі. Гэта гісторыя адбылася 20 гадоў таму ў Красным. Зігмунд Саевіч тады працаваў яшчэ стажорам, але ўсё памятае, быццам гэта адбылося ўчора.**

## Непаўналетнія правапарушальнікі

**МАЛАДЗЕЧНА. У ліпені дзяжурнаму па станцыі Уша паступіла паведамленне ад машыніста цягніка, што праходзіў, аб тым, што на перагоне Уша-Маладзечна на рэйкі пакладзены камяні.**

Праз некалькі хвілін за ім павінен быў прайсці хуткі пасажырскі поезд. Работнікі чыгункі і супрацоўнікі праваахоўных органаў затрымалі трох непаўналетніх правапарушальнікаў. Было ўстаноўлена, што гэтыя падлеткі таксама вывелі са строю манеўровы святлафор.

**АСТРАВЕЦ. У чэрвені ў раёне разбілі 7 лінзавых камплектаў на манеўровых святлафорах.**

Супрацоўнікамі Маладзечанскага аддзела ўнутраных спраў па транспарце было ўстаноўлена, што гэта зрабілі таксама падлеткі.

У абодвух выпадках ад крымінальнай адказнасці непаўналетніх выратавае іх узрост. Яны і іх бацькі прыцягнуты да адказнасці і будуць пакрываць урон, які нанеслі чыгунцы

**Вадзім КУЛЯШЭЎСКІ, начальнік інспекцыі па справах непаўналетніх Маладзечанскага АУС на транспарце.**

■ УЛАДЫ І СМІ

## Газету «Наша свабода» закрыюць?

**2 жніўня суд Маскоўскага раёна сталіцы разгледзеў канфлікт паміж старшынёй Камітэта дзяржкантролю Рэспублікі Беларусь Анатолем Тозікам і рэдакцыяй газеты "Наша свабода".**

Дзяржаўны службовец дамагаўся абвяржэння звестак, апублікаваных газетай 16 ліпеня ў артыкуле Міхаіла Падаляка "Конфиденциально", а таксама матэрыяльнай кампенсацыі на агульную суму 215 млн. рублёў (каля 115 тыс. долараў ЗША паводле курсу Нацбанка). Суддзя А. Савіч прызнаў рацыю А. Тозіка і вызначыў памер кампенсацыі маральнай шкоды – 105 млн. рублёў з газеты і аўтара артыкула (каля 54 тыс. долараў). Іск Анатоля Тозіка аб абароне гонару і годнасці трапіў у суд 26 ліпеня. 31 ліпеня судовыя выканаўцы апісалі маёмасць адказчыкаў.

"Наша свабода", якая выходзіць два разы на тыдзень па аўторках і пятніцах, не выйшла ўжо ў дзень судовага разгляду справы. Раўнэнне ж суда можа прывесці да таго, што газету закрыюць.

Рэдактар "Нашай свабоды" Павел Жук быў заснавальнікам і рэдактарам зачыненай у 1999 годзе газеты "Навіны". Тады з іскам аб абароне гонару і годнасці на суму 15 мільярдаў рублёў (каля 50 тыс. долараў) выступіў Віктар Шэйман. Судовы працэс супраць "Навінаў" скончыўся за 5 працоўных дзён з моманту падачы іску і прывёў да закрыцця газеты.

**Аддзел інфармацыі «РГ».**

■ ЗДАРОЎЕ

## Латарэйны білет у інфекцыйную бальніцу

**Практычна кожны можа ўбачыць, як каля магазінаў, уздоўж дарогі прадаюць зеляніну, агародніну, садавіну, ягады, малако, грыбы, рыбу. Продаж праводзіцца ў неабсталяваных месцах, з зямлі. Нават на міні-рынках не хапае абсталяваных месцаў.**

Купляючы прадукты харчавання ў невядомага чалавека, вы бясплатна атрымліваеце латарэйны білет у інфекцыйную бальніцу. Бо невядома, дзе вырошчвалася тая ці іншая агародніна, якія ўгнаенні выкарыстоўваліся і колькі, якая колькасць радыенуклідаў утрымліваецца.

Асабліва вялікая рызыка пры пакупцы малочных прадуктаў – нядобрасумленны гаспадар можа прадаваць малако ад хворай жывёлы, ды і невядома, ці здаровы ён сам, ці ахайны. Малако з'яўляецца спрыяльным асяроддзем для ўсемагчымых мікраарганізмаў, развіццю якіх спрыяе гарачыня. Ды і пластыкавыя бутэлькі, якія катэгарычна забаронена выкарыстоўваць паўторна, могуць быць узяты з кантэйнера для смецця. Рыба, вылаўленая ў рэках, вадаёмах, практычна ўся заражана белымі чарвячкамі – гельмінтамі.

Паважаныя пакупнікі, не рызыкуйце; калі набываеце сельскагаспадарчую прадукцыю ва неўстаноўленых месцах. У горадзе ёсць два рынкі, дзе адміністрацыя і спецыяльныя лабараторыі адказваюць за якасць прадуктаў, за наяўнасць даведак аб здароўі прадаўца і жывёлы.

Калі вы хочаце даведацца аб узроўні радыенуклідаў у вырашчаных вамі прадуктах, а таксама ў дарах лесу, можаце звярнуцца ў лабараторыю цэнтра гігіены і эпідэміялогіі, дзе для прыватных асоб даследаванні праводзяцца бясплатна. Для гэтага патрэбны кілаграм прадуктаў, які будзе вернуты пасля праводзення аналізу.

**Людміла МАЙКО, загадчыца аддзялення гігіены харчавання Маладзечанскага раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі.**

■ ПЛАВАННЕ

## Насця Лях зноў б'е рэкорд краіны

**Да чэмпіянату Еўропы ў Берліне на "доўгай вадзе" беларускія плыўцы рыхтаваліся даволі сур'ёзна, правялі чатыры зборы: Бабруйск, Курахова (Украіна), Мінск, Прага (Чэхія).**

Думаецца, асабістыя дысцыпліны маладзечанка **Насця Лях** выкарыстала, каб у найлепшай спартыўнай форме падысці да галоўнага свайго старту ў складзе камбінавай эстафеты. На стометроўцы ў папярэднім заплыве паказала час 1.13,42, што адпавядае выніковаму 20 месцу. На 50 м зноў была 20-й у папярэднім заплыве з асабістым рэкордам 33,64. На 200 м яна паказала 16-ы час у "папярэдцы" (2.37,75), і выніковы 15-ы ў паўфінальным заплыве – 2.36,84.

Эстафета прынесла беларускам дзесятае месца з часам 4:14,91, што ледзь не на 7 секунд хутчэй, чым раней ўшы рэкорд краіны, устаноўлены камандай Мінскай вобласці ў маі.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ІНВАСПОРТ

## Перамога на чэмпіянаце свету

**На чэмпіянаце свету ў французскім горадзе Ліль выдатна выступілі маладзечанцы Віктар Жукоўскі і Ігар Фартунаў.**

У Віктара атрымаўся сёлета лепшы сезон у кар'еры. Ён узяў два залатыя медалі, паказаўшы свае найлепшыя вынікі. У скачках у даўжыню – 6,44. У трайным скачку – 12,66. Ігар перашчытаваў у сваіх каронных скачках у даўжыню – 7,23. Стаў бронзавым прызёрам у бегу на 100 і 200 метраў.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ФУТБОЛ, ВЫШЭЙШАЯ ЛІГА

# Дэбют Аляксандра Гармазы

**3 жніўня. Нёман (Гродна) – Маладзечна-2000 2:0.**

**Галы:** Барысейка (30, 76).

Суддзя Віктар Мацюшаў (Мінск), 8000 гледачоў.

Макрыцкі
Смірноў (Грыхуцік,76) Сідарэнка
Азява Тартоўскі (Мятліцкі, 13)
Карпіленка
Дараховіч
Дрозд Пятроўскі (Кандраценя, 83)
Азаронак
Сцепановіч

Кавалевіч не рэалізаваў пенальці на 65-й хвіліне (Сцепановіч парыраваў).

Папярэджанне – Мятліцкі, Азаронак.

**Лепшы па версіі "РГ"** – Сцепановіч (трэці раз у сезоне).

Запасныя – Відрук, Калінюк, Рубацкі.

## Матч

Перамога гаспадарам далася цяжка ў тым сэнсе, што сустрэлі вельмі ўпартае супраціўленне па ўсіх законах самааддананай гульні. Імкнуліся яны з маладымі гасцямі дзейнічаць на грані фола: так, ужо на 8-й хвіліне **Тартоўскі** атрымаў траўму, якая вывела яго са строю на месяц. Героем матча стаў **Барысейка**, двойчы здалёку прабіўшы моцна і ў прыцірку са штангай. Зарабіў ён і пенальці, які ў чацвёрты раз з сямі парыраваў **Сцепановіч** (дарэчы, нашым ужо не забілі тры запар пенальці). Хутка пасля гэтага спрыяльны момант зраўняць лік стварыў сабе **Грыхуцік**. На жаль, удар на моц з выгаднага становішча быў недакладным.

## Хто ж галоўны трэнер?

Трэнер **Аляксандр Гармаза** зараз непасрэдна працуе з ФК "Маладзечна-2000". **Аляксандр Кісцень** не вытрымаў нервовага напружання і пасля сустрэчы з "Зоркай-ВА-БДУ" лёг у шпіталь у перадінсультным стане. Неабходна зазначыць, што ачко, узятае ў тым матчы, з'яўляецца не меншай заслугай Гармазы і яго памочніка **Андрэя Найдзіча**, чым Кісценя, у якога праблемы з павышаным ціскам пачалася яшчэ ў міжкругавой паўзе.




Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Варатар "Маладзечна-2000" Віталь Сцепановіч адбівае пенальці ў другім матчы запар. Але гэтага аказалася недастаткова для перамогі.**

Зараз незразумела, хто ж галоўны трэнер каманды. Лёс гэтага пытання, відаць, залежыць ад тых структур, што фінансуюць клуб. Пасля таго, як **Людас Румбуціс** пакінуў каманду, створанае яго бізнес-партнёрамі закрытае акцыянернае таварыства амаль страціла свой сэнс. Зарплату ж гульцам плацяць гарадскія структуры (на дадзены момант прэтэнзій да іх няма), а таму ўсе рашэнні залежаць ад гарадскіх кіраўнікоў, членаў грамадскага аб'яднання, пад шыльдай якога існуе клуб.

## Вынікі 15 тура

Нёман – Тарпеда-МАЗ 1:1, Славія – Дынама (Бр) 1:1, Гомель – Дынама (Мн) 1:1, Лакаматыў-96 – Днепр-Трансмаш 2:3. Тарпеда-МАЗ – Славія 1:0, Дынама (Бр) – Гомель 2:1, Дынама (Мн) – Белшына 2:1, Тарпеда – Лакаматыў-96 5:0, Днепр-Трансмаш – Зорка-ВА-БДУ 4:0, Шахцёр – БАТЭ 2:0.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

## Табло

■ ВЕЛАСПОРТ

**МАЛАДЗЕЧНА. Ля Вывераў на працягу чатырох дзён спаборнічалі юныя (1985-89 г.н.) веласіпедысты ў рамках Алімпійскіх дзён моладзі Мінскай вобласці па так званай трэкавай праграме.**

Гэта значыць, дысцыпліны трэкавыя (гіт, спрынт, гонка праследавання, гонка-крытэрыум), а траса звычайная шасейная, бо трэкаў у Беларусі няма наогул.

Па-за конкурсам выступалі сталічныя "Дынама" і СДЮШАР. Непасрэдную барацьбу вялі, акрамя маладзечанцаў, прадстаўнікі Мінскага раёна, Барысава і Крупкаў. У камандным заліку нашы землякі саступілі сталічнаму раёну. У асабістым заліку сярод старэйшых юнакоў і дзяўчат вызначыліся **Святлана Лебедзева, Сяргей Сыракваш і Павел Пялагін.** Святлана была першай у парнай гонцы праследавання і трэцяй у гонцы-крытэрыуме на 15 км. Сяргей быў другім у індывідуальнай гонцы праследавання на 3 км, у гіце на 1 км, у гіце на 5 км. Павел быў першым у гонцы-крытэрыуме на 20 км.

Наперадзе ў іх – рэспубліканскія старты ў Мазыры 9 – 11 жніўня.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ФУТБОЛ, ДУБЛЬ

**2 жніўня. Нёман – Маладзечна-2000 1:0.**

**Гол:** Масціцкі (67).

**Склад:** Рубацкі (кап.), Невядомскі, Кандраценя (Бурачонак, 46), Ясюкевіч, Калянюк (Сопат, 81), Мятліцкі (Марцінкевіч, 76), Відрук, Татун, Дармін, Харэцкі, Грыхуцік (Абановіч, 46).

■ ФУТБОЛ, ПЕРШАЯ ЛІГА

**3 жніўня. ЗЛіН (Гомель) – Смаргонь 2:0 (0:0).**

Суддзя Аляксандр Філатаў (Магілёў), 800 гледачоў

**Галы:** Удодаў (58), Усаў (85)

**Склад:** Шляхавой, Іваноў, Давідовіч, Кода, Мяць, Налівайка, Дукса, Шамшорык, Жаркоў, Стэльмах (Шаблінскі, 73), Шпакоўскі (Казлоў, 64).

Камунальнік – Нафтан 1:0, ЗЛіН – Днепр-ДЮСШ-1 3:2, Ліда – Бяроза 2:5, Граніт – Асіповічы 5:0, Нёман – Тарпеда-Кадзіна 3:0, Дынама-Юні – Хімік 1:0, Дарыда – Лакаматыў 2:2. Дарыда – Камунальнік 0:0, Бяроза – Днепр-ДЮСШ-1 1:2, Асіповічы – Ліда 1:0, Тарпеда-Кадзіна – Граніт 0:1, Хімік – Нёман 1:1, Лакаматыў – Дынама-Юні 2:0, Ведрыч-97 – Нафтан 2:0.

| | |
|---|---|
| Дарыда | 43 |
| Ведрыч-97 | 37 |
| Лакаматыў | 37 |
| Граніт | 33 |
| Нафтан | 32 |
| ЗЛіН | 31 |
| Камунальнік | 25 |
| Ліда | 21 |
| Днепр-ДЮСШ-1 | 21 |
| Нёман | 20 |
| Дынама-Юні | 19 |
| Тарпеда-Кадзіна | 16 |
| Хімік | 16 |
| **Смаргонь** | **14** |
| Бяроза | 13 |
| Асіповічы | 9 |

Бамбардзіры: Кузьмянок (Дарыда) – 18; Вярбіцкі (Нёман), Усаў (ЗЛіН), Юсіпец (Ведрыч-97) – па 11 галоў.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ФУТБОЛ, ДРУГАЯ ЛІГА

**3 жніўня. Гомель-2 – Забудова 0:1 (0:0).**

**Гол:** Маргун (70).

У чысціньцаў 17 ачкоў, і яны дзеляць 7-8 месцы са СКВІЧам.

■ ФУТБОЛ, АМАТАРАМ СТАТЫСТЫКІ

**8 ліпеня. Тарпеда-МАЗ (Мінск, дубль) – Маладзечна-2000 (дубль) 3:1 (1:1)**

**Галы:** (4), (72), (83); Альховік (44)

На 72-й хвіліне футбаліст "Тарпеда-МАЗа" не рэалізаваў пенальці (**Сцепановіч** парыраваў).

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ФУТБОЛ, ВЫШЭЙШАЯ ЛІГА

**Табліца чэмпіянату пасля 15 тураў**

| | |
|---|---|
| Нёман | 33 |
| Тарпеда-МАЗ | 31 |
| БАТЭ (-1) | 29 |
| Гомель | 27 |
| Днепр-Трансмаш | 27 |
| Дынама (Мн) | 26 |
| Тарпеда (-1) | 23 |
| Шахцёр (-1) | 22 |
| Белшына (-1) | 20 |
| Дынама (Бр) | 20 |
| Зорка-ВА-БДУ | 10 |
| **Маладзечна-2000** | **8** |
| Славія | 7 |
| Лакаматыў-96 | 6 |

**Бамбардзіры:** Стрыпейкіс (Белшына) – 11; Ю. Мархель (Тарпеда) – 8 галоў.

**На гэтым тыдні гуляюць**

**09.08 18-00 (дублі) Маладзечна-2000 – Днепр-Трансмаш (Магілёў)**
+0=1-2 3-7. У першым крузе 0:3 на выездзе

**10.08 18-00 Маладзечна-2000 – Днепр-Трансмаш (Магілёў)**
+5=5-9 24-37. У першым крузе 1:3 (Бычкоўскі) на выездзе

**11.08 16-00 Смаргонь – Бяроза**
У першым крузе 2:0 (Дукса, Кошаль) на выездзе

**11.08, Маладзечна, Гарадскі стадыён, 18-00**
Забудова – Верас (Нясвіж)
+2=1-6 6-13. У першым крузе 1:5 (В. Ваўчок) на выездзе

■ ФУТБОЛ

# "Пасля сябе пакінулі папялішча"

**СМАРГОНЬ. Новы галоўны трэнер «Смаргоні» да свайго цяперашняга прызначэння працаваў у многіх месцах. Аб апошніх гадах яго кар'еры расказваюць нашы субяседнікі і інтэрнет.**

## Спартыўныя спецыялісты

Загадчык аддзела па ФКСіТ пры Мастоўскім райвыканкоме **Сяргей Кухлей:**

– Уткін прыехаў у Масты ў 1998 годзе, прывёз з Украіны свайго сябра-памочніка Бубліка і з дзесятак футбалістаў. Наш "Нёман" тады ў другой лізе заняў 4 месца, і на наступны сезон заявіўся ў першую лігу. А ў "Нёмана" з грашыма ўсё было ў парадку. Перад стартам у сезоне-99 гэтыя "варагі" запатрабавалі плаціць ім яшчэ больш. Урэшце, Уткіна "ўбралі", а Бублік і некаторыя гульцы засталіся на год. Самае крыўднае, што яны "развалілі" мясцовы калектыў, пакінулі пасля сябе папялішча.

Старшыня Гродзенскай абласной федэрацыі футбола Франц Ляцяга:

– Лічу гэтыя замены паспешлівымі. Не ўпэўнены, што былы галоўны трэнер "Смаргоні" **Андрэй Майсейчанка** вінаваты ў выніках каманды. Але нават калі і трэба было яго здымаць, то на замену можна было знайсці ў нашай вобласці спецыяліста ніколькі не горшага за прыезджага Уткіна.

## На інтэрнэтаўскіх сайтах

**Газета "Каманда" (Кіеў), 25 студзеня 2001 года.**

Былы галоўны трэнер луганскай "Зары" Юрый Елісееў:

– ...Я быў цалкам залежным чалавекам. Вы думаеце, я стаў бы выбіраць сабе ў памочнікі такіх людзей, як Вадзім Дабіжа і Уладзімір Уткін? Першы – больш дзіцячы трэнер, чым дарослы, а другі і зусім далёкі ад футбола, і я не разумею, якое ён да яго наогул мае дачыненне. Я неяк прапанаваў Дабіжы вызваліць ад абавязкаў Уткіна. Пацвярджэннем маіх слоў служыць вылет "Зары-2" (пад кіраўніцтвам Дабіжы і Уткіна) з першай лігі чэмпіянату Луганскай вобласці...

**Газета "Молодёжный курьер" (Йошкар-Ала), 15 лістапада 2001 года.**

"...Летам у "Спартаку" раптам з'явіўся селекцыянер. Новую для йошкар-алінскай каманды пасаду пачаў асвойваць невядома як прабраўшыся ў марыйскія край з украінскага Луганска Уладзімір Уткін. Добрых гульцоў у каманду ён так і не прывез. Пад чулым кіраўніцтвам селекцыянера футбалісты сачынілі ліст аб тым, што іх няправільна трэніруюць. Спартакаўскія ўлады паддаліся гульцам і памянялі Паўленку на Уткіна. У тым, што яны сабе наклікалі, "пісацелі" разабраліся даволі хутка. (занялі 16 месца з 18 у зоне другой расійскай лігі – **аўтар**).

**Газета "Тверская жизнь" (Цвер), 29 сакавіка 2002 года.**

"...Нядаўна прызначаны галоўным трэнерам "Волгі" (выступае ў аматарскай лізе – **аўтар**) Уладзімір Уткін раптам стаў "былым". Кіраўніцтва ФК "Волга" і Уткін не прыйшлі да паразумення ў фінансавым пытанні, і настаўнік, не згодны з прапанаванымі ўмовамі кантракта, паехаў з Цверы..."

**Падрыхтаваў Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ФУТБОЛ, КУБАК КРАІНЫ

**1/32 фінала. 7 жніўня. Вертакаль (Калінкавічы) – Смаргонь 5:1.**

**Галы:** (11), (55), (79), (84), (89); Стэльмах (50).

